Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

14-20 лютага 1997 года

# Рэгіянальная газета

ЦАНА 2000 РУБ. ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

№7 (95)

ТЭЛЕВІЗАР ЗА 24 ТЫСЯЧЫ!

2-ая старонка

Пра надоі

## Ну, не хочуць яны малака ў пакетах

*ВАЛОЖЫН. 59 фермерскіх гаспадарак агульнай плошчай 961 гектар налічваецца ў раёне. Летась 6 фермераў падалі заявы аб спыненні работы на зямлі, на змену ім прыйшлі 4 чалавекі. За мінулы год сялянскімі гаспадаркамі Валожыншчыны вырашчана 1068 тон збожжа, 654 тоны бульбы, 107 тон агародніны, 235 тон малака і 37 тон мяса.*

Але ніякія лічбы не могуць перадаць усіх цяжкасцей, што сустракаюцца на цярністым фермерскім шляху, пачынаючы з выдзялення зямлі, калі ім дастаюцца, вядома, не самыя лепшыя, цяжкія для апрацоўкі глебы, і заканчваючы ўборкай вырашчанага ўраджаю, пры якой тэхніка для жніва прыватнікам даецца ў апошнюю чаргу. Бясспрэчна, што ў фермераў патрабуюць і занадта складаную справаздачнасць— на ўзроўні калгаснай.

Церпяць прыватныя земляробы і жывёлаводы таксама і ад неабавязковасці некаторых партнёраў. Так, Івянецкі племптушказавод яшчэ і ў лютым не мог разлічыцца з двума фермерамі за восеньскія пастаўкі морквы. Прыкладам таго, што наша грамадства пакуль не бачыць у фермерстве сілу, здольную стаць сур'ёзнай альтэрнатывай калгасам, служыць выпадак з мясцовым фермерам М. Сімным. Калі апошні выказаў жаданне ўзяць у арэнду на 70 гадоў 225 гектараў калгаснай зямлі, то адначасова са згодай кіраўніцтва калгаса "Зара" атрымаў магутнае процідзеянне жыхароў дзвюх вёсак. Яны лічаць за лепшае мець у нічыйна-агульным карыстанні забалочаныя, парослыя хмызняком землі, чым пусціць на іх гаспадара з далёка ідучымі планамі, аж да выпуску пакетаванага малака.

*Таццяна АЛЯКСЕЕВА.*

Разборкі

## У 57 загадаў доўга жыць

*МАЛАДЗЕЧНА. Адзінаццаць з семнаццаці арганізацый аб'яднання "Маладзечнасельбуд" па загадзе былога міністра архітэктуры і будаўніцтва РБ Навіцкага перападпарадкоўваюцца Мінску. Па сутнасці, прадпрыемства ліквідуецца.*

Дырэктары ўключаных у спіс арганізацый на сваім савеце катэгарычна выказаліся супраць. На іх думку, гэты крок парушыць ранейшыя ўзаемаадносіны з заказчыкамі, прыпыніць развіццё будаўнічай вытворчасці ў рэгіёне. Аб немэтазгоднасці перападпарадкавання адаслалі лісты міністру, старшыні аблвыканкома, намесніку прэм'ер-міністра. Рабочыя занепакоены— ці застануцца з работай. Арганізацыйныя змяненні могуць прывесці да скарачэнняў.

За мінулы год па "Маладзечнасельбудзе" балансавы прыбытак склаў 4043 мільёны рублёў. Дагаворныя абавязацельствы з заказчыкамі выкананы на 102,9%. Сёлетняя праграма прадугледжвае павелічэнне аб'ёмаў работ амаль у 2 разы. Калі справы неблагія— навошта рэзаць па-жывым?

На балансе аб'яднання 43 жылыя дамы, аздараўленчы летнік на 250 месцаў, Дом культуры, дзіцячы садок, сталовая, лячэбна-аздараўленчы комплекс. Калі штаб пяройдзе ў Мінск, цяжка будзе вырашаць і сацыяльныя пытанні, і вытворчыя. Перападпарадкаванне эканамічна не абгрунтавана.

Магчыма, міністэрства не задавальняе кіраўнік трэста Мікалай Воранаў. Хаця, здаецца, што прасцей— зняць і прызначыць новага? Некаторыя думаюць, што кіраўнік ведаў аб будучых падзеях, але маўчаў. Хаця быў яшчэ час іх пазбегнуць.

Трэст №5 утварыўся ў 1940 годзе. Будаваў горад: ВА "Электрамодуль", з-д "Спадарожнік", жыллё... У аб'яднання (14 па ліку ў былым Саюзе) свая гісторыя, свая слава, памылкі. Больш за тысячу ветэранаў працы.

У 1986 годзе ў "Мінскаблсельбуд" цалкам увайшлі будаўнічыя трэсты вобласці. Такая структура пратрымалася ля года. Колькі пратрымаецца новая?

Тым болей, што перападпарадкаванне не ўзгаднялася ні з мясцовымі ўладамі, ні з працоўным калектывам аб'яднання.

*Васіль САВІЦКІ.*

Рэзананс

## Лёс ксяндза Казіміра вырашае папа Рымскі

*АСТРАВЕЦ-МІНСК. У большасці парафіянаў касцёла Узвышэння Святога Крыжа няма ніякага жадання мірыцца з несправядлівым, на іх думку, стаўленнем да ксяндза Казіміра Жывалеўскага з боку біскупа Гродзенскай епархіі Аляксандра Кашкевіча (падрабязна аб гэтым канфлікце "РГ" пісала ўжо). Не дабіўшыся жадаемага выніку прашэннямі і паездкамі да біскупа, парафіяне на мінулым тыдні "шукалі справядлівасці і праўды", накіраваўшыся да прадстаўніка Ватыкана ў Мінску.*

Група з 4 чалавек ездзіла на прыём да папскага нунцыя, дзе перадала прашэнне аб вяртанні ксяндза Казіміра ў Астравец, а таксама расказала пра сітуацыю, што склалася.

Нунцый, выслухаўшы парафіян, зазначыў, што днямі накіроўваецца ў Рым і абавязкова перадасць гэтае прашэнне папу Рымскаму Яну Паўлу II. Акрамя гэтага, нунцый быў узрушаны фактам беспадстаўнага выкліку міліцыі ў касцёл Косма і Дзям'яна.

Цяпер становіцца відавочным, што далейшы лёс ксяндза Казіміра цалкам знаходзіцца ў руках папы Рымскага, і таму парафіянам застаецца толькі чакаць.

Тым часам у Парэччы, што ля Гродна, збіраліся ксяндзы з усёй вобласці. Сярод мноства пытанняў, якія там абмяркоўваліся, пытанне аб вяртанні ксяндза Казіміра і падзелу парафіі ў Астраўцы не ўзнікала.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*



Анонс



*Адзін з самых хадавых прадуктаў у рэгіёне - рыба. Вэнджаная, засоленая, свежамарожаная, кансервы. Але што мы ўжываем разам з ёй? Аб гэтым - у наступным нумары.*

Чарговыя заняткі з юнымі карэспандэнтамі пройдуць у рэдакцыі "РГ" у панядзелак, 17 лютага, а 16 гадзіне.

Даведкі па тэл. 53841.

Долар- не рубель

## Дэкрэт не аб міры і зямлі. Аб валюце

*Прэзідэнт выдаў 5 лютага свой першы дэкрэт. У адрозненне ад падобных дэкрэтаў, падпісаных у далёкім 1917 годзе заснавальнікам савецкай дзяржавы і прысвечаных асноўным праблемам таго часу— "Мир— народам! Земля— крестьянам", дэкрэт №1 беларускага прэзідэнта прысвечаны валюце, дакладней кантролю за ёй.*

Згодна з дэкрэтам, продаж наяўнай замежнай валюты фізічным асобам адбываецца толькі пры ўмове рэгістрацыі іх пашпартных дадзеных, усе аперацыі па куплі-продажы і абмену валюты дазваляюцца толькі ў абменных пунктах банкаў. Узмацняецца адміністрацыйная адказнасць за парушэнне парадку ажыццяўлення валютна-абменных аперацый— скупка, продаж валюты грамадзянам без дазволу абыдзецца ў 100-300 мінімальных заработных плат, чаплянне да грамадзян з мэтай куплі-продажу валюты можа пацягнуць за сабою штраф у суме да 150 мінімальных зарплат. Замежная валюта і іншыя грашовыя сродкі, што знаходзяцца ў вінаватых асоб на момант здзяйснення правапарушэння, належаць да канфіскацыі. Калі супрацьпраўныя дзеянні здзяйсняюцца паўторна на працягу года, штрафы павялічваюцца ў 2 разы (дзеючае заканадаўства прадугледжвае за падобнае і зняволенне, нават з канфіскацыяй маёмасці).

*Аддзел інфармацыі*

Навіны

## Хочаце ў Ізраіль?

*МАЛАДЗЕЧНА. 2 лютага ў палітэхнікуме адбылася сустрэча з прадстаўнікамі яўрэйскага агенцтва "Сахнут". Яно займаецца адраджэннем яўрэйскай культуры і традыцый, яўрэйскай мовы— іўрыта, а таксама дапамагае рэпатрыіравацца ў Ізраіль.*

Прадстаўнікі агенцтва правялі лекцыю "Ізраіль сёння", падрабязна адказалі на пытанні прысутных, правялі ўрок для вучняў ульпана. Маладзечанцы ўпершыню пасля доўгага перапынку прысутнічалі на свяце Ту-Бі-шват (Новы год дрэваў), чулі жывы іўрыт.

Вынік сустрэчы гаворыць сам за сябе. Неўзабаве адкрываецца яшчэ адна група вывучэння іўрыта. А ў сакавіку плануецца правесці сустрэчу, на якой будзе прысутнічаць яўрэйскі хор з Мінска, паказаны відэафільмы аб Ізраілі.

*Алена ЯЎГРАШЫНА.*

## Тавар не для зарплаты

*ВАЛОЖЫН. Дэфіцыт грашовых сродкаў, бывае, вымушае кіраўніцтва мясцовага льнокамбіната разлічвацца з рабочымі гатовай прадукцыяй.*

У апошні час асартымент яе пашырыўся. Але з'явіліся і вырабы, выдача якіх у якасці пагашэння запазычанасці заработнай платы ўспрынялася б не інакш, як кашчунства: у студзені пачаўся выпуск трунаў.

Сыравінай для гэтых рытуальных прадметаў служыць кастрапліта, якая другі год сыходзіць з канвеера прадпрыемства. Ва ўмелых руках трунароў гэты матэрыял знайшоў цяпер не зусім тыповае прымяненне. У 550 тысяч рублёў абыходзіцца выкананне падобнага заказу. Тэхналогія выпуску ўключае і знешнюю драпіроўку чорным атласам, на ўнутраную аддзелку выкарыстоўваецца льняное палатно.

З Дзяржынскага і Вілейскага Дамоў быту паступілі ўжо заказы.

*Ірына ПАШКЕВІЧ.*

## І будуць кілаваты непадуладныя для аплаты

*АСТРАВЕЦ. Чым танней электраэнергія, тым і затраты на выпуск прадукцыі будуць меншыя, і, адпаведна, сабекошт, а значыць, і тавар рэалізаваць будзе лягчэй.*

Ведаюць добра пра гэта і на ААТ "Кардонная фабрыка "Альхоўка". Нядаўна, каб не выкідваць лішніх грошай за электраэнергію, тут вырашылі пабудаваць уласную гідраэлектрастанцыю. Усе работы па яе ўзвядзенні і мантажы выконваюцца ўласнымі сіламі. У першы этап будаўніцтва ўкладзена каля 800 мільёнаў рублёў, а ўвесь кошт электрастанцыі складзе каля 2-3 мільярдаў рублёў.

Але гэтыя лічбы, як зазначыў у гутарцы дырэктар Яўген Варановіч, не засмучаюць, бо з увядзеннем яе ў строй затраты на электраэнергію стануць значна меншымі і расходы акупяцца.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Акцыянерная плітка

*МАЛАДЗЕЧНА. На нядаўна створаным ААТ "Маладзечнажалезабетон" адбыўся першы сход акцыянераў гэтага калектыву.*

Як засведчыў дырэктар прадпрыемства М. Івашкевіч, пераход да недзяржаўнай формы ўласнасці не толькі спрыяе яго дзейнасці і больш справядліваму матэрыяльнаму ўзнагароджванню працоўных (сярэдні заробак за студзень павялічаны на 50% і складае прыкладна 3-3,5 млн. руб.), але і садзейнічае прыцягненню замежных спажыўцоў і інвестараў, якія больш ахвотна ідуць на супрацоўніцтва з уласнікам, чым дзяржавай. Так, напрыканцы лютага чакаецца прыезд італьянскіх бізнесменаў для падпісання дамовы па стварэнні сумеснага прадпрыемства па выпуску тратуарнай пліткі. Апошняя карыстаецца цяпер вялікім попытам і на Захадзе, і ў СНД.

*Уладлен ЧАЦВЯРГОЎ.*

Крымінал

## Міліцыя супраць

*АСТРАВЕЦ. Пры спробе незаконнага перавозу ў Літву 24 тон лому каляровых металаў коштам каля 38 тысяч долараў ЗША, былі затрыманы грамадзянін Літвы Рэмічус Кундротас.*

У незаконнай скупцы і перамяшчэнні металу праз беларуска-літоўскую мяжу яму дапамагаў мясцовы супрацоўнік раённага аддзела ўнутраных спраў. Зараз і кантрабандыст, і яго памагаты-міліцыянер затрыманы, вядзецца следства.

*Аддзел інфармацыі.*

Сведчаць дакументы

# ХРОНІКА ЗЛАЧЫНСТВАЎ 1939-1941

*Працяг. Пачатак у №№28-34,37,39-41,43-51 за 1996 г.,№№1-4,6 за 1997 г.*

## Спіс асуджаных у Асобай Нарадзе на 25-е снежня 1940 г. па УНКУС Вілейскай вобласці.

976. Осак Піліп Іосіпавіч– 27. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Архангельск
977. Навіцкі Іван Браняслав.– 27. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
978. Нікалаевіч Фёдар– 25. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Архангельск
979. Абжыгайла Фёдар Дзянісавіч– 27. 6. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
980. Адхочын Браніслаў Ігнатав.– 27. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– невядома
981. Астроўская Марыя Міхайлаўна– 27. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Карабас
982. Абаровіч Міхаіл Андрэевіч– 2. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Карабас
983. Окунь Пётр Рыгоравіч– 5. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Марыінск
984. Аленьчык Віктар Юльянавіч– 26. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
985. Аздоба Пётр Антонавіч– 21. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
986. Азерскі Віктар Сцяпанавіч– 21. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
987. Астлінскі Янус Сямёнавіч– 21. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
988. Арліцкі Антон Францавіч– 21. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
989. Апачынскі Давід Беркавіч– 26. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
990. Астроўскі Віктар Радастр.– 26. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
991. Абалевіч Сімон Сімонав.– 19. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
992. Ашмянскі Лаўрэнцій Франц.– 5. 8. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
993. Аброцкі Годфрыд Восіпавіч- 17. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
994. Одынш Фадзей Іванавіч– 17. 8. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
995. Абязерскі Міхаіл Іахімавіч– 10. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
996. Астроўская Антаніна Іосіфаўна– 26. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
997. Аляхновіч Мар'ян Віктаравіч– 13. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
998. Адорскі Браніслаў Антонавіч– 21. 8. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
999. Абалевіч Пётр Іванавіч– 27. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1000. Агурчонак Васіль Іванавіч– 6. 8. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Архангелск
1001. Асіповіч Павел Рыгоравіч– 9. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1002. Аўчынік Станіслаў Уладзіслав.– 2. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1003. Аганоўскі Іосіф Антонавіч– 5. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1004. Асташэўскі Іван Мечыславав.– 9. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1005. Астрапольскі Франц Карпавіч– 2. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1006. Акулёнак Мар'ян Антонавіч– 23. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
1007. Акулёнак Вікенцій Антонавіч– 23. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
1008. Аношка Мар'ян Уладзіслававіч– 23. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– Севжелдорлаг
1009. Абуховіч Фульгельцій Мар'янавіч– 29. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Пенза
1010. Акулёнак Антаніна Карапеўна– 23. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Поцьма
1011. Арлоўскі Герман Уладзісл.- 23. 7. 40 г.- 3 гады ВТЛ- ст. Котлас.
1012. Арлоўскі Іван Аншэравіч– 19. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1013. Аношка Баляслаў Іларыёнавіч– 9. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Поцьма
1014. Прачук Герасім Несцеравіч– 21. 8. 40 г.–3 гады ВТЛ– ст. Поцьма
1015. Піваранис Альберт Іосіфавіч– 21. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
1016. Паўлюкевіч Восіп Паўлавіч– 5. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1017. Пракаповіч Іван Адамавіч– 19. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1018. Паўловіч Аляксандр Іванавіч– 17. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Поцьма
1019. Пашковіч Іосіф Фелікставіч– 17. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Поцьма
1020. Пальчэўскі Іосіф Ляфортавіч– 26. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
1021. Папіёлек Зігмунд Іванавіч– 29. 6. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
1022. Пракоф'еў Варфаламей Арцем'евіч– 28. 77 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
1023. Петрык Станіслаў Тамашавіч– 17. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
1024. Пяткевіч Баляслаў Ісідаравіч– 17. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1025. Прахаронак Васіль Станіслававіч– 17. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
1026. Паўлюкевіч Міхаіл Браніслававіч– 17. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
1027. Портахельмадэр Іцхок Лейзеравіч– 21. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
1028. Платач Віктар Іванавіч– 5. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Архангельск
1029. Палавец Маісей Давідавіч– 19. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
1030. Паўловіч Бярнард Людвігавіч– 27. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
1031. Пятроўская Іаанна Нікадзімаўна– 27. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Карабас
1032. Папюн Браніслаў Станіслававіч– 27. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1033. Прудніκоўскі Дзмітрый Філімонавіч– 13. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1034. Пяткевіч Ірына Іосіпаўна– 27. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Поцьма
1035. Пяткевіч Браніслава Францаўна– 3 гады ВТЛ– ст. Поцьма
1036. Пракоп Браніслаў Ягоравіч– 27. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1037. Пракоп Уладзімір Ягоравіч– 27. 7. 40 г.– 5 годВТЛ– ст. Котлас
1038. Пятроўская Ліна Гlibраўна– 19. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Цімлаг
1039. Подух Пётр Варфаламеевіч– 10. 8. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Безымянка
1040. Піза Антон Войцэхавіч– 13. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1041. Плюцінскі Ануфрый Сцяпанавіч– 10. 8. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Безымянка
1042. Пізяк Восіп Пятровіч– 22. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1043. Пашкоўскі Уладзіслаў Іванавіч– 17. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1044. Паплаўскі Стэфан Станіслававіч– 9. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1045. Пашкевіч Маўрыцы Мікалаеўна– 17. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1046. Паўловіч Антон Іванавіч– 21. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1047. Палая Франц Валянцінавіч– 29. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1048. Пічура Сцяпан Міхайлавіч– 5. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1049. Петрык Браніслаў Андрэевіч– 17. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1050. Пілецкі Вітольд Вікенцьевіч– 9. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1051. Падморскі-Панамарэнка Мікалай – 13. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст.Архангельск
1052. Пачкоўскі Рытон Уладзіміравіч– 5. 8. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Архангельск
1053. Падгайскі Фелікс Уладзіславіч– 30. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Енісей
1054. Парамонаў Аўтанслей Іосіфавіч– 6. 8. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Архангельск
1055. Пташнік Міхаіл Маркавіч– 5. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Архангельск
1056. Попель Аляксандр Іванавіч 17. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1057. Паліпенка Усцін Восіпавіч– 9. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1058. Палярэвіч Іосіф Іванавіч– 9. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1059. Пызінскі Стефан Тэафілавіч– 9. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1060. Паўлоўскі Ян Янавіч– 9. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1061. Паўлік Уладзіслаў Іванавіч– 18. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– Севжелдорлаг
1062. Пялецкі Юзэф Юзафавіч– 10. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1063. Пяткевіч Восіп Станіслававіч– 9. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1064. Пашкевіч Міхаіл Восіпавіч– 2. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1065. Пяткевіч Пётр Уладзіміравіч– 9. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1066. Пякарскі Адам Сігізмундавіч– 9. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1067. Паўловіч Эдвард Вікенцьевіч– 9. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1068. Паўловіч Іосіф Ігнатавіч– 9. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1069. Пастарнак Павел Ігнатавіч– 23. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1070. Пачкоўскі Іван Уладзіміравіч– 23. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1071. Паўлетка Вільгельм Янавіч– 27. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1072. Петрашэвіч Мікалай Рыгоравіч– 22. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– Севжелдорлаг
1073. Падвальскі Ігнат Мартынавіч– 9. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Поцьма
1074. Пегарчык Людвіг Сямёнавіч– 27. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1075. Партыка Станіслаў Вікенцьевіч– 23. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1076. Падвінскі Браніслаў Германавіч– 5. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Салікамск
1077. Парафіяновіч Юзэф Станіслававіч– 27. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1078. Пуховіч Баляслаў Мікалаевіч– 23. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
1079. Паўлюкевіч Мар'ян Паўлавіч– 5. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Поцьма
1080. Падгайскі Станіслаў Антонавіч– 27. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Поцьма
1090* Пракоф'еў Варфаламей Арцем'евіч– 23. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
1091. Пракаповіч Генрых Феліксавіч– 27. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1092. Пятроўскі Іосіф Ульянавіч– 27. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1093. Палейка Лела Іосіфавіч– 27. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
1094. Піварун Гераім Пятровіч– 19. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1095. Пуховіч Ганарата Кліменцьеўна– 23. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Поцьма
1096. Пяткевіч Міхаіл Віктаравіч– 19. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
1097. Пастаўскі Іцык Вульфавіч– 23. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1098. Плоўчак Хана Іосіфаўна– 10. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Поцьма
1099. Пяшкур Уладзіслаў Андрэевіч– 23. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1100. Перкал Іцык Янкелевіч– 27. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1101. Пяткун Антон Ігнатавіч– 27. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– г. Архангельск
1102. Пачабуцкі Аляксандр Фёдаравіч– 27. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– г. Архангельск
1103. Пілецкі Іосіф Савельевіч– 277. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– г. Архангельск
1104. Падчайскі Станіслаў Антонавіч– 27. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1105. Пуцята Іван Антонавіч– 25. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Караганда

*Працяг будзе.*

Ад кілбасы да ананаса

## Помнік гандлю

***АСТРАВЕЦ. У выхадныя дні ён збіраўся і ехаў у Вільню. Там абыходзіў не адзін і не два магазіны, аглядаў іх, рабіў нейкія запісы, а часам нават і замяраў вокны, дзверы і іншае. Аднойчы гэтымі паводзінамі выклікаў падазрэнне ў гаспадара супермаркета і той спытаў:***

— Што гэта вы вымяраеце ў маёй краме?

— Ведаеш, калега, хачу пабудаваць такі ж у сябе ў Астраўцы,— быў адказ старшыні райспажыўтаварыства Юрыя Кацнельсона.

Задуманае ім некалькі год таму будаўніцтва супермаркета ў мінулую пятніцу ажыццявілася— адбылося ўрачыстае адкрыццё ўніверсама "Івушка". Такую назву ён атрымаў дзякуючы вярбе, што расце побач. Сам жа супермаркет выглядае даволі прывабна не толькі звонку, але і ў сярэдзіне, чым прыцягвае не аднаго пакупніка. Купіць жа там можна ад хлеба, кілбас да ананасаў і мяккіх цацак.

Астраўчане цяпер ходзяць туды як у сапраўдны музей гандлю.

*Янук СІВАКОЎ.*

Пажары

## Месца для подзвігу

***АСТРАВЕЦ. Ледзь не дайшло да трагічнага напрыканцы студзеня ў вёсцы Чыжоўшчызна.***

Зранку муж і жонка Галубы пакінулі ў сябе дома без нагляду дваіх суседскіх дзяцей і чатырохгадовага сына Паўліка. Закрылі на замок дом і пайшлі па сваіх справах. Неўзабаве дзеці пачалі бавіцца з запалкамі, ад чаго і ўзнік пажар. Мусіла адбыцца самае страшнае, бо малыя не маглі выйсці з дому.

На іх шчасце, пажар убачылі слесар Уладзімір Арлоўскі і вадзіцель Іван Дрэма, якія на той момант займаліся ўстаноўкай газавых балонаў у вёсцы. Ім прыйшлося ў палаючым доме разбіваць вокны і выносіць дзяцей. Абышлося без ахвяраў, але шкада, што подзвіг гэтых адважных людзей пакуль застаецца не аддзячаным. У пажарнай службе разводзяць на гэты конт рукамі, бо няма ў іх палажэнняў на медаль. Хіба што хлопцы змогуць атрымаць падарунак.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Спытайце ў каровы пашпарт

***ВАЛОЖЫН. Пашпарт, натуральна, мусіць прад'явіць не сама жывёліна, а яе гаспадар. А рашэнне аб пашпартызацыі прыватнага дойнага статка Валожыншчышы было прынята нядаўна райвыканкомам.***

Яно заклікана ўпарадкаваць гандаль малаком на рынках раёна, паставіць заслону нядобраякаснай, а часам і небяспечнай для здароўя малочнай прадукцыі. Цяпер кожны гандляр будзе абавязаны прад'явіць пакупніку пашпарт сваёй рагулі, які гарантуе здароўе жывёліны. У дакуменце, без якога ў сакавіку ўжо нельга будзе з'явіцца з малочным таварам у гандлёвых радах рынку, акрамя прыкмет каровы, імя і прозвішча ўладальніка, будуць зроблены адзнакі аб прышчэпках жывёлы, дадзеныя абследаванняў на туберкулёз, бруцэлёз і лейкоз.

*Таццяна ШАБЛЫКА.*

## "Мяне не шукайце, вярнуся багатай"

***ВІЛЕЙКА. Такую запіску пакінула бацькам дзесяцікласніца М.***

Знікла, прыхапіўшы з дому запатыя ўпрыгожванні, долары. У кампаньёны да сябе ўзяла сяброўку з сёмага класа. Доўгі час аб дзяўчынках няма звестак.

*Аддзел інфармацыі.*

Райвыканкам інфармуе

## Згубленае пакаленне?

***МАЛАДЗЕЧНА. Вывучаць праблемы, з якімі сутыкаецца насельніцтва, дапамагчы іх вырашыць— мэта стварэння пры райвыканкоме інфармацыйна-аналітычнага цэнтра. Загадчыца інфармацыйнага аддзела выканкома Таццяна Шафаловіч, якая ўзначаліла новую структуру, адразу засяродзіла ўвагу на моладзі. Распрацавала анкету і распаўсюдзіла яе сярод 130 навучэнцаў старэйшых курсаў ПТВ-21 і ПТВ-42.***

1. Якія якасці цэняцца ў кампаніі? 76% апытаных вылучылі весялосць, гаварлівасць. Усяго 2 чалавекі— шчырасць, розум, здольнасць дапамагчы.

20 навучэнцаў гарэлку не ўжываюць.

40— наадварот, прычым пастаянна.

60 патрэбны псіхолаг, ці чалавек, з якім можна параіцца, як сябе паводзіць у розных сітуацыях.

Сярод праблемаў на першым месцы "дзе і як узяць грошы?" На другім— працаўладкаванне.

Толькі 7 чалавек шукаюць, дзе падзарабіць у вольны ад вучобы час. Астатнія слухаюць музыку (57%), ходзяць на дыскатэку (38%), глядзяць тэлевізар (48%).

Толькі адзін навучэнец глядзіць па тэлебачанні інфармацыйныя праграмы, 5— "Клуб падарожнікаў", "Амерыка з Таратутам" і д. т. п., 45%— перадачы тыпу "Што? Дзе? Калі?", "Тэма", "Сям'я", 74%— "Гарадок", "Джэнтльмен-шоў", сярод газет папулярныя "Двое", "Я+Я", "Спид-инфо", "Версия".

Выйграй тэлевізар!

***Добры дзень, паважаная рэдакцыя "РГ"! Ваша газета самабытная і цікавая не асобнымі рубрыкамі, а цалкам, чытаю "ад коркі да коркі".***

Мой ліст паспее, мабыць, трапіць да вас на стол да сярэдзіны лютага, а таму спадзяюся, што прачытаеце. Вершы пішу даўно. Часам друкуюць.

### Сретенье

*День неожиданно-серый,*
*После мороза и снега с хрустцой.*
*Что-то в весну мы упрямо не верили*
*И говорили слегка с хрипотцой.*
*Кто-то простится,*
*а кто-то и втретится*
*Днём конопатым,*
*под солнцем другим,*
*Ну а теперь небо даже не светится,*
*Припорошило чужие следы.*
*Словно погода, шуршит настроение.*
*Вроде не холод и, вроде, не грязь.*
*Свежим предчувствием*
*ветра весеннего*
*Я надышусь, от зимы не таясь.*

Ну вось пакуль і ўсё. Дакладней, не зусім усё. На "РГ" падпісалася на паўгода. На ўдачу асабліва не разлічваю, але чым д'ябал не жартуе? Дасылаю вам копію падпіснога абанемента. Прабачце за такую вось канцоўку. Зусім развучылася пісаць лісты.

*З павагай*
*Таццяна СНАПОК,*
*Маладзечна.*

**Выйграць тэлевізар можа любы наш падпісчык на другі квартал. Для ўдзелу ў латарэі дастаткова выслаць на адрас рэдакцыі да канца сакавіка копію падпіснога абанемента на другі квартал (або першае паўгоддзе). Тэлевізар "Верас" знойдзе свайго ўладальніка ў сярэдзіне красавіка.**

## Сабачае сяброўства

***МАЛАДЗЕЧНА. Амаль восем месяцаў прайшло ад таго часу, як гарвыканком распрацаваў палажэнне аб рэгістрацыі дамашніх жывёл у домакіраўніцтвах. За гэты тэрмін у спісах рэгістрацыі з'явілася каля 120 сабак. Большасць чатырохногіх сяброў, натуральна, не зарэгістравана.***

Тым не менш, гарвыканком распрацаваў дапаўненне да прынятага раней палажэння аб мясцовым зборы з уладальнікаў сабак за ўтрыманне жывёл на тэрыторыі горада. У 5 разоў паменшыцца стаўка збору для адзінокіх пенсіянераў, якія маюць ільготы па аплаце за камунальныя паслугі ў адпаведнасці з заканадаўствам. Намесніку старшыні гарвыканкома Я. Ідэльчыку прадастаўлена права вызваляць уладальнікаў сабак ад збору поўнасцю альбо часткова— у выключных выпадках па заявах асобных грамадзян.

Але варта яшчэ помніць, што чатырохногі сябар без адпаведнага пасведчання і жэтона з нумарам рэгістрацыі права на існаванне не мае. Яго могуць элементарна адлавіць і ўсыпіць. Мера цалкам апраўданая, бо пачасціліся выпадкі, калі сабакі кусаюць людзей. За гэта, дарэчы, уладальнікі жывёл могуць пазбавіцца да 10 мінімальных зарплат.

*Наталля РАБЧАНКА.*

Спорт

## Астравецкія задзіракі

***У Слоніме прайшлі спаборніцтвы юных баксёраў на прызы РАА і ДЮСШ №1. Удзел у іх бралі прадстаўнікі Гродна, Гомеля, Мазыра, Віцебска, Бабруйска, а таксама Ашмянаў, Смаргоні і Астраўца.***

Гонар Астравеччыны абаранялі пятнаццаць выхаванцаў А. Маргужа. Былі сярод удзельнікаў і навічкі, якія ўпершыню выходзілі на рынг у падобным турніры, і неаднаразовыя чэмпіёны вобласці, і прызёры Кубка Беларусі, уладальнікі іншых тытулаў.

Перад астравецкімі баксёрамі выстаяць змаглі нямногія, бо тыя ажно 8 разоў падымаліся на першую і 4 разы на другую прыступку п'едэстала.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Конкурс мадэляў у басейне

***МАЛАДЗЕЧНА. Школьнікі Мінскай воблсці правялі спаборніцтвы па суднамадэльным спорце. Іх гасцінна прымаў басейн "Маладосць".***

Першае месца заняў абласны цэнтр тэхнічнай творчасці і натуралістычнай работы, другое— Слуцк, а гаспадары— на трэцім.

У асабістым заліку больш за палову прызавых месцаў заваявалі сталічныя школьнікі. Канкурэнцыю ім склалі толькі тыя ж маладзечанцы ды случакі.

*Аддзел інфармацыі.*

## Усё па-парадку

***АСТРАВЕЦ. Надакучыла вучням з СШ №2 хадзіць на ўрокі. І вырашылі яны разам з "калегамі" з Гудагайскай СШ з'ездзіць у Маладзечна на таварыскую сустрэчу па валейболе з навучэнцамі ДЮСШ.***

Гульні праходзілі ў трох узроставых групах сярод юнакоў і дзяўчат. У трох матчах лік быў аднолькавы— 2:1 на карысць астраўчан.

Цяпер дзеці зноў ходзяць у школу і "грызуць граніт" навукі. Хоць і выйгралі, але і павучыцца трэба.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Не хварэй, Юля

***ВІЛЕЙКА. Два гады таму Юля Занкавіч перанесла складаную аперацыю на сэрцы. Цяпер здароўе пяцігадовай дзяўчынкі пагоршылася. Неабходны былі сродкі, каб набыць электракардыястымулятар.***

Адгукнуліся сябры гарадскога аддзялення дзіцячага фонду з германскага горада Уна. Яны набылі патрэбны апарат за 10 тысяч марак і пераслалі хворай дзяўчынцы.

*Аддзел інфармацыі.*

